*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 14 (1477) 1 КРАСАВІКА 2020 г.**

# Магілёўшчына вясенняя і паэтычная

## ПАЭТЫЧНАЯ ВЯСНА

Літаратурны клуб “Святліца” Цэнтра творчасці дзяцей і моладзі "Агат" г. Магілёва правёў сустрэчу, прысвечаную Міжнароднаму дню паэзіі, якая прайшла ў гарадской дзіцячай бібліятэцы імя А.С. Пушкіна ў вузкім коле сяброў клуба. Папярэдне планаваўся ўдзел паэтаў Леаніда Дранько-Майсюка і Эдуарда Акуліна, аднак у сувязі з пандэміяй каранавіруса іх прыезд перанесены. А заняткі ніхто не адмяняў.

Сусветны дзень паэзіі штогод адзначаецца 21 сакавіка. Ён быў заснаваны ЮНЕСКА ў 1999 годзе на 30-й генеральнай канферэнцыі ў Парыжы. Асноўныя яго мэты - даць магчымасць быць пачутымі тым мовам, якія знаходзяцца пад пагрозай знікнення, і падтрымаць моўную разнастайнасць з дапамогай паэтычнага самавыяўлення. Паэзія аб'ядноўвае людзей усяго свету, дапамагае ім зразумець адзін аднаго.



Святкаванне гэтага дня для літаратурнага клуба "Святліца" стала традыцыяй. І не выпадкова, бо менавіта 21 сакавіка 2012 года было прынята рашэнне аб яго стварэнні.

Гутарку аб паэзіі вяла Тамара Пятроўна Аўсяннікава, кіраўнік літаратурнага клуба. У першай частцы сустрэчы гаварылі аб роднай мове. Цікава было ўзгадаць, што слоўнік літаратурнай мовы налічвае прыкладна 250000 - 500000 слоў, у дыялектнай мове - каля 1,5 - 2 мільёнаў слоў; што беларуская мова мае тры алфавіты, і што назвы станцый метро ў Менску напісаны не па-англійску, а беларускай лацінкай, якую Міжнародны камітэт ААН зацвердзіў у 2007 годзе для афіцыйнага ўжытку ў тапаніміцы.

Тое, што беларуская мова з XIV стагоддзя і да 1696 года была афіцыйнай мовай Вялікага Княства Літоўскага і з 1990 па 1995 год мела статус адзінай дзяржаўнай мовы ў Беларусі, выклікае пачуццё гонару за мову і ў той жа час не пакідае пачуццё смутку за стан мовы сёння.



Другая частка сустрэчы была прысвечана непасрэдна паэзіі. Сябры клуба Настасся Аўчыннікава, Ната Драздова, Валерый Папкоў, Ілля Слабодчыкаў, Ганна Сурта, Аліна Коршунава чыталі ўласнага творы і творы любімых аўтараў. Мілада Паўлава, самая малодшая ўдзельніца клуба, падзялілася сваімі лірычнымі вершамі, з якімі яна выступіла на гарадскім конкурсе творчага чытання ўласных вершаў "Сакавіцкае рэха - ІІІ", дзе атрымала першае месца.

У літаратурным клубе "Святліца" сабралася моладзь, якая любіць паэзію. Кожны з прысутных выказаў думку аб ролі паэзіі ў яго жыцці.

Ната Драздова:

- Для мяне паэзія - мой псіхолаг, мой самааналіз і маё лекаванне.

Анастасія Аўчыннікава:

- Я не магу жыць без паэзіі. Вершы дапамагаюць мне знайсці выхад з любой жыццёвай сітуацыі. З іх дапамогаю я магу правільна ўпарадкаваць свае думкі і знайсці адказ на хвалюючае пытанне.

Завяршылася сустрэча чаяваннем, фотасесіяй і абменам уражанняў.

***Кацярына ШЭЙНІКАВА,***
*сябра літаратурнага клуба "Святліца".*

## ПРЫГОЖАЕ НАСУПЕРАК ЖАХЛІВАМУ

*Каранавірус*
*З Кітая выпаўз.*
*Каранавірус*
*Прыйшоў да нас, -*
спяваюць Саўка ды Грышка.

Прыйшоў. Людзі імкнуцца больш сядзець дома. Некаторыя бацькі не пускаюць дзяцей у школу. Міністэрства такое дазволіла. Але настаўнікі патрабуюць: "Няхай прыдзе хаця б напісаць кантрольную работу. Нам жа адзнакі за чвэрць трэба ставіць." А якую кантрольную, калі дзіця ў школу не хадзіла і тэму не вучыла? Варта было б міністэрству зрабіць наступны крок: адмяніць атэстацыю за трэцюю чвэрць.





*Мілада Паўлава - гераіня дзвюх імпрэз*

І вось у гэтых умовах, калі прыпынены амаль усе масавыя мерапрыемствы, магілёўцы вырашылі не забываць пра Міжнародны дзень паэзіі. І правялі чарговы конкурс мастацкага чытання ўласных вершаў "Сакавіцкае рэха - ІІІ".

За яго дыпломы і прызы ў бібліятэку імя Янкі Купалы 22 сакавіка прыйшлі пазмагацца дзевяць спаборнікаў, сярод якіх былі і школьнікі і пенсіянеры, людзі розных прафесій, рознай адукацыі, якіх аб'ядноўвала адно хобі - пісаць вершы на роднай мове. Каля дваццаці слухачоў шчодра дарылі ім свае воплескі. А журы ўважліва слухала і адзначала баламі і якасць самога твора, і якасць яго мастацкага агучвання.

У выніку вызначаны тры пераможцы. Трэцяе месца заняў леташні пераможца "Сакавіцкага рэха" Павел Данілаў з вершам, прысвечаным Анатолю Сысу. На другім месцы - лірычная Таццяна Лугаўцова:

*Мы паедзем туды,*
*дзе на беразе шэрая галька,*
*Дзе празрыстыя хвалі*
*спаўзаюць са сцёгнаў струною*
*І збягаюць у мора*
*са ступняў вільготнай спіралькай*
*Між табою і мною…*

А першае месца журы прысудзіла самай маладой удзельніцы, васьмікласніцы ліцэя № 1 Міладзе Паўлавай за яе лірычныя вершы, аздобленыя адмысловым строем дзяўчыны. Мілада займаецца ў клубе "Святліца" Цэнтра творчасці дзяцей і моладзі "Агат". Клубам кіруе сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў Тамара Аўсяннікава. Яе выхаванцы не раз дэманстравалі добрыя ўзоры беларускага вершаскладання на розных конкурсах і імпрэзах. Дарэчы, спадарыня Тамара з'яўляецца ініцыятарам конкурса "Сакавіцкае рэха", які з падтрымкай бібліятэкі ладзяць абласная арганізацыя Саюза беларускіх пісьменнікаў (кіраўнік - Мікалай Яцкоў) і гарадская арганізацыя Таварыства беларускай мовы (кіраўнік - Алег Дзьячкоў).

Вядоўцы імпрэзы адзначылі падарункам і Вольгу Юрчанка, якой да прызавога месца не хапіла аднаго бала. Але так бывае: прачытаеш першы радок і адразу адчуваеш - гэта паэзія.

*У выраі мае буслы даўно…*

Пра што адзін толькі гэты радок? Тут і пра радзіму, і пра сябе, пра доўгую пройдзеную дарогу, тут і смутак, але смутак светлы, бо ўсё ж буслы вяртаюцца з выраю і вяртаюцца заўсёды ў свае гнёзды. Дарэчы, радок выразна беларускі, яго не атрымаецца дакладна перадаць рускай мовай, бо там няма адпаведніка слову "вырай". Спадарыня Вольга, былая настаўніца рускай мовы і літаратуры, распавяла, што з'ездзіла ў Вільню на пахаванне Кастуся Каліноўскага і яго паплечнікаў, і нешта адбылося ў яе душы: ёй захацелася пісаць беларускія вершы, якіх яна раней не пісала.

Упрыгожыў імпрэзу бард Васіль Аўраменка сваімі спевамі. Ён пахваліўся сваёй радасцю: выдавецтва "Кнігазбор" толькі што выдала яго зборнік джаз-моўных вершаваных практыкаванняў "Кругі і колы". Зборнік атрымалі ў падарунак усе прызёры конкурсу. Астатніх ён запрасіў на прэзентацыю, якая адбудзецца вечарам 10 красавіка ў магілёўскім грамадскім цэнтры "Кола".

Жыве і квітнее беларуская паэзія!

***Міхась Булавацкі.***

# Ратавальнік мовы

***Пайшоў у Нябесную Беларусь сталы сябар рэдкалегіі "Нашага слова" прафесар Павел Сцяцко***

Яшчэ Вальтэр параўноўваў мову з расквітнелым садам. Але каб сад квітнеў вясной, а летам пладаносіў, яго трэба даглядаць круглы год. Спілоўваць сухія галіны, знішчаць жукоў-караедаў і раслін-паразітаў, што звыклі жывіцца чужым сокам. Сад сам не здольны абараніцца, ачысціцца ад паўзучай набрыдзі. Яму патрэбен садоўнік.

Вось такім клапатлівым садоўнікам у садзе беларускай мовы быў Павел Сцяцко - адзін з найлепшых айчынных мовазнаўцаў, які на 91-м годзе жыцця пакінуў гэты свет у шпіталі пад Гароднай. Усё жыццё ён ратаваў ад русіфікацыі родную мову, яго ёмістая кніга "Культура мовы", як на маё разуменне, павінна быць настольнай для ўсіх, хто піша па-беларуску.



У гэтым даведніку Павел Сцяцко падрабязна разглездзеў 1500 выпадкаў засмечвання нашай мовы чужамоўнымі калькамі, пазычанымі без асаблівай патрэбы словамі і словазлучэннямі і якіх, трэба прызнаць, да гэтай пары безліч у нашых нарматыўных слоўніках. Гартаеш іх, і ажно душа сцінаецца, калі на вочы трапляюць *казначэй, узносы, мсціўец, прыхожая, вярыцельная грамата, ваеннаслужачы, лечачы ўрач...* Як быццам у беларускай мове няма ёмкіх і дакладных адпаведнікаў: *скарбнік, складкі, помснік, вітальня, даверчы ліст, вайсковец, лекар...*

Павел Сцяцко тыя адпаведнікі якраз і знаходзіў, і чытачам сваім даводзіў мэтазгоднасць іх ужывання. Цярпліва і даступна, як школьнікам на ўроку. Пашукаўшы ў запасніках народнай памяці, ці - зазірнуўшы ва ўласную кішэню, а часам і паклікаўшы на дапамогу чуйных да мовы класікаў Максіма Гарэцкага ці Кузьму Чорнага, Янку Брыля ці Фёдара Янкоўскага.

З гарадзенскім доктарам філалогіі многія не пагаджаліся, крытыкавалі за моўны радыкалізм. Найперш другі доктар з таго самага Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы - Іван Лепешаў. Што ж, два мядзведзі ў адным берлагу ўжыцца не маглі. Іван Якаўлевіч складаў свае фразеалагічныя слоўнікі сыходзячы з больш памяркоўных пазіцый. Павел Уладзіміравіч любіў секануць з пляча, вінавацячы калегу ледзь не ў капітуляцыі перад "русским миром". Я спрабаваў іх прымірыць, даводзячы прафесару Сцяцко, што і слоўнікі прафесара Лепешава патрэбны, паколькі фіксуюць сучасны стан мовы - з усімі яе хваробамі і хібамі. А каб знайсці дзейсныя лекі, трэба ведаць гісторыю захворвання.

Былі ў Сцяцка сутычкі і з самім Кандратам Крапівой, які ў таленавіта напісаных байках высмейваў дыпламаваных бараноў, а ў мовазнаўстве (як віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук і адказны за ўсе акадэмічныя слоўнікі) почасту запальваў перад імі зялёнае святло. Павел Уладзіміравіч прыгадваў, як на канферэнцыі па нармалізацыі беларускай мовы, якая праходзіла ў 1972 годзе, Крапіва заклікаў пісьменнікаў часцей карыстацца адрэдагаванымі ім ды яго паслядоўнікамі слоўнікамі. І малады мовазнавец смела запярэчыў акадэміку: "Няўжо беларускія пісьменнікі настолькі непісьменныя, што будуць трымацца, як п'яны плоту, вашых слоўнікаў?"

Павел Сцяцко даглядаў і мілаваў сад мовы самааддана, ахвяраваўшы адпачынкам і сямейным жыццём. Помню, як неяк улетку ён цэлы месяц жыў у свайго сябра і майго школьнага настаўніка Пятра Марціноўскага ў мястэчку Дзярэчын на Зэльвеншчыне. Там, дарэчы, мы і пазнаёміліся ў 1984 годзе. Думаеце, прафесар адпачываў? Не, ён ледзь не штодня выбіраўся ў падарожжы па навакольных вёсках, не мінаючы сваё роднае Грабава, гутарыў з людзьмі. У выніку сабраў і выдаў "Зэльвенскі слоўнік" і ўжо адной гэтай сваёй працай сплаціў доўг зямлі, дзе прыйшоў на свет у далёкім 1930 годзе.

З Паўлам Уладзіміравічам мы закончылі адну і тую ж Дзярэчынскую школу. Ён у пасляваенным 1947-м, я - на трыццаць сем гадоў пазней. У гасцінный хаце Пятра Марціноўскага, за чаркай "марціні" (так мы называлі самаробнае настаўнікава віно) будучы карыфей мовазнаўства расказваў, як вучыўся пры немцах у беларускай школе. Падкрэсліваў - у беларускай і мовай, і ўсім духам выкладання. Заняткі адбываліся ў былым палацы Сапегаў, які ў 1943 годзе спалілі партызаны…

За ўсю сваю гісторыю Дзярэчынская школа наўрад ці прыгадае больш здольнага вучня - першы клас Павел адолеў усяго за два месяцы, з трэцяга пераступіў адразу ў пяты, а з пятага сягнуў сходу ў сёмы! Перад гэткім націскам падкага да навукі юнака здаўся без бою (без экзаменаў) Гарадзенскі педінстытут, які ў 1991 годзе даверыў свайму колішняму выпускніку кафедру беларуска-славянскага мовазнаўства.

Дзесяць кандыдатаў і адзін доктар філалагічных навук - вучні Паўла Сцяцка. Можна з поўным правам гаварыць пра яго навуковую школу. А колькі па ўсёй Беларусі завочных вучняў Паўла Уладзіміравіча, якім пасля прачытання яго кніг нібы вочы нанова адкрыліся! У Герадотавай "Гісторыі", у кнізе чацвёртай, гаворыцца пра племя будзінаў, якое жыло ў міжрэччы Прыпяці і Гарыні. Тыя будзіны доўгі час жылі ў падняволлі і амаль развучыліся размаўляць пасвойму, а потым усё ж скінулі чужое ярмо і (цытую Герадота) "былі ўражаныя прыгажосцю роднай мовы". Гэтак і многія беларусы, прачытаўшы кнігі гарадзенскага прафесара, адчуюць сябе малапісьменнымі і зразумеюць, што памылкова засвоілі не тую мову...

Павел Сцяцко нарадзіўся ў дзень смерці Сталіна і ўсё сваё жыццё паклаў, каб сарваць бальшавіцка-імперскую зашмаргу з беларускай мовы. І зашмарга тая, дзякуючы яго высілкам, адчувальна паслабла.

А памёр напярэдадні Дня Волі, перад Звеставаннем. Сумная для нас, камусьці гэта вестка, магчыма, прынесла радасць. Можа, і на нябёсах хтосьці пажадаў вывучыць не сапсаваную русіфікацыяй самабытную беларускую мову…

*Міхась СКОБЛА.*

# Міжнародны дзень паэзіі на "Экватары"

Няпростыя зараз часы. Але, нягледзячы на гэта, літаратурны клуб "Экватар" усё ж такі вырашыў хаця б невялічкім колам адсвяткаваць Міжнародны дзень паэзіі, які значыцца ў календары 21 сакавіка. У рэшце рэшт, каранцін у нашай краіне пакуль не абвешчаны, і забаронены толькі масавыя мерапрыемствы.

Дык вось, самыя смелыя творчыя асобы, якія маюць дачыненне да экватарыяльнай суполкі, сабраліся 22 сакавіка ў бібліятэцы № 1 імя Л. М. Талстога. Распачала паседжанне шэф-рэдактар клуба Інга Вінарская, якая прывітала прысутных і цёпла павіншавала іх з Міжнародным паэтычным святам. Таксама Інга распавяла пра шэраг канцэртаў, якія правяла канцэртная брыгада клуба ў лютым 2020 года. Асобна вядоўца спынілася на канцэрце ў Ваеннай акадэміі Рэспублікі Беларусь, які быў праведзены 23 лютага, і прадэманстравала сабраўшымся Грамату, якой быў узнагароджаны літаратурны клуб "Экватар" пасля гэтага канцэрту.



Святочную праграму 22 сакавіка, прысвечаную Міжнароднаму дню паэзіі, распачала прафесійная паэтка і пісьменніца Вольга Любашына. Яна чароўным, мілагучным голасам прачытала напамяць шэраг сваіх вершаў. Дарэчы, канцэрт у Ваеннай акадэміі падрыхтавала і правяла менавіта Вольга, прычым на высокім узроўні.

Паэт Вячаслаў Данілаў піша вельмі прафесійныя, але пераважна сумныя вершы. Некалькі з іх ён прачытаў прысутным. Але вядоўца настаяла, каб прагучалі і аптымістычныя, вясёлыя вершы гэтага аўтара. Тады прысутныя пачулі опус пра высокую баскетбалістку ў кароткай спадніцы і з глыбокім дэкальтэ, і твор гэты быў прывітаны ўсмешкамі прысутных.

Сямейная пара - Міша Піліпец і Каця Дрозд - частыя госці на мерапрыемствах літаратурнага клуба "Экватар". На святкаванне Міжнароднага дня паэзіі яны прыйшлі таксама. Міша Піліпец прачытаў шэраг сваіх вершаў для прысутных. Каця Дрозд



выканала некалькі Мішыных вершаў - яна заўсёды так робіць, бо сама вершаў не піша, але з'яўляецца вялікай прыхільніцай і Мішынай паэзіі, і паэзіі ўвогуле.

Паэтка Клаўдзія Максімава не прысутнічала на мерапрыемствах "Экватара" з восені мінулага года, і на гэта ў яе была важкая прычына: Клаўдзія амаль паўгады знаходзілася ў азіяцкім турнэ. Жаніна наведала шэраг краінаў таго рэгіёну, у прыватнасці, некалькі месяцаў правяла на індыйскім Гаа. Сабраныя пачулі ад Клаўдзіі нізку вершаў, якую паэтка прывезла са сваёй вандроўкі.

Сямейства Быкавых прыехала на паседжанне "Экватара" ў складзе бацькі Рамана, маці Валянціны і сына Дзмітрыя. Валянціна Быкава прачытала прысутным свой верш, які вядоўца назвала баладай ці нават паэмай, бо верш быў дастаткова доўгі. Што тычыцца Рамана і Дзмітрыя, то разам яны стварылі творчы дуэт "Змітрок". Абодва спяваюць і граюць на гітарах: Раман - на звычайнай, Дзмітрый - на электрычнай. Песні яны выконваюць на вершы Рамана. Прысутныя пачулі звыш дзесяці песень у выкананні дуэта "Змітрок", прычым Раман і Дзмітрый выходзілі да аўдыторыі двойчы - такія вось два "аддзяленні" імправізаванага канцэрту атрымаліся.



Супрацоўніца Інстытута літаратуразнаўства імя Янкі Купалы НАН Беларусі Таццяна Барысюк шчыра павіншавала прысутных са святам - Міжнародным днём паэзіі. Яна трохі распавяла прысутным пра сваю работу ў Інстытуце літаратуразнаўства, а працу яна ў аддзеле міжнародных літаратурных сувязей. Потым Таццяна прачытала шэраг сваіх вершаў з нізкі "Платанічнае каханне", якая была надрукавана ў альманаху "Літаратурны экватар" № 8 (10) за 2019 год.

Напрыканцы паседжання выступала Інга Вінарская. Яна запрапанавала прысутным падумаць, а потым кожнаму па чарзе назваць сваю любімую лічбу. Па гэтых лічбах Інга адгортвала нумары старонак сваёй кнігі "Солнце поэтов" і чытала вершы, што знаходзіліся на старонках з названымі лічбамі-нумарамі. Атрымалася цікава. Нешта містычнае ў гэтым было. І нездарма, бо звычку менавіта так чытаць вершы для аўдыторыі Інга Вінарская некалі пераняла ў знакамітай рускай паэткі Рымы Казаковай, з якой добра была знаёмая.

Кожнага выступоўцу сабраная аўдыторыя шчыра вітала воплескамі. У той дзень у бібліятэцы Талстога панаваў цудоўны творчы настрой. Разышліся ўсе радасныя і натхнёныя.

Дасць Бог, хутка літаратурны клуб "Экватар" збярэцца зноў!

*Інга Вінарская,*
*паэтка, пісьменніца, журналістка.*

# У Шклове прайшла вечарына памяці аўтара шклоўскага гімна



У мінулую нядзелю ў Шклове ў грамадскім цэнтры "Мост" раённая арганізацыя ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" правяла вечарыну прысвечананую памяці Заслужанага дзеяча культуры Беларусі Віталія Аляксеевіча Бабчанкі, чалавека, які доўгі час узначальваў Шклоўскую музычную школу і ўсё сваё жыццё прысвяціў адданай працы на ніве культурнага жыцця Шклоўшчыны. Нагода да мерапрыемства - 85-годдзе з дня яго нараджэння.

Віталь Аляксеевіч Бабчанка нарадзіўся 22 лютага 1935 года ў горадзе Гомелі ў сям'і рабочага-каваля. У 1954 годзе скончыў школу ў мястэчку Нова-Данбас на Украіне, куды пераехалі яго бацькі. Пасля тэрміновай службы ў арміі закончыў Магілёўскае музычнае вучылішча імя Рымскага-Корсакава і ў 1961 годзе быў размеркаваны ў Шклоў выкладчыкам па класу баяна ў музычную школу.

З 1970 года ён узначальвае шклоўскую музычную школу і працуе на гэтай пасадзе больш як чвэрць стагоддзя. Адначасова вучыцца ў Белдзяржкансерваторыі, якую скончыў у 1974 годзе. У 1969 годзе з выкладчыкаў музычнай школы ствараецца ансамбль народных інструментаў, нязменным яго кіраўніком на доўгі час становіцца Віталь Бабчанка. Ансамбль аб'ядноўвае каля 20 чалавек. У яго рэпертуары творы беларускіх і замежных кампазітараў. Галоўная задача калектыву - цікаўнасць да народнай музыкі і яе папулярызацыя. Ансамбль прымаў актыўны ўдзел у розных культурніцкіх мерапрыемствах раёна, абласных аглядах, конкурсах, рэспубліканскіх фестывалях, выступаў у іншых рэгіёнах і замежжы. Кожная сустрэча з гледачамі заўсёды карысталася нязменным поспехам. Яго ўдзельнікі і кіраўнік неаднаразова ўзнагароджваліся граматамі Міністэрства культуры Беларусі і ўпраўлення культуры аблвыканкама. Ганаровае званне "народны" ансамблю прысвоена ў 1980 годзе за высокі ідэйна-мастацкі ўзровень рэпертуару і выканаўчае майстэрства.

На мяжы 60-70 гадоў, сугучна з новай новамоднай хваляй па гарадскіх задворках загучалі куплеты пад славутыя тры гітарныя акорды. Адпаведна гітара становіцца ўжо не проста музычным інструментам. Яна набывае нейкі своеасаблівы модны брэнд. Па ўсёй дзяржаве вельмі хутка расце колькасць вакальна-інстументальных ансамбляў, дзе галоўным музычным інструментам з'яўляецца электрагітара. Віталь Аляксеевіч, як апантаны да музыкі чалавек, у адпаведнасці з духам таго часу, адначасова з народным стварае і эстрадны музычны калектыў пры клубе "Чырвоны Кастрычнік" папяровай фабрыкі "Спартак". Клуб "Чырвоны Кастрычнік" арганізоўвае рэгулярныя танцавальныя вечарыны, дзе гучаць сучасныя музычныя творы. Невялікі калектыў хутка становіцца папулярным у Шклове. Амаль у кожным гарадскім культурніцкім мерапрыемстве абавязкова прымае ўдзел новамодны ансамбль з бліскучымі гітарамі і элекрамузычным абсталяваннем.

З успаміну Аляксандра Грудзіны: *"У 1971-1972 гадах я быў у складзе музыкантаў-гітарыстаў калектыва пад кіраўніцтвам Віталія Бабчанкі. Добра памятаю, з якім вялікім імпэтам праводзіліся рэпетыцыі, як усе ўдзельнікі хваляваліся перад кожным выступленнем. Безумоўна, галоўным завадатарам быў менавіта яго кіраўнік. Віталій Аляксеевіч пісаў музыку, рабіў аранжыроўкі, вучыў нас музычнай грамаце і вельмі строга патрабаваў ад нас дасканалага выканання парцітуры. Высокі ўзровень і дасканаласць выканання музычных твораў пасадзейнічалі таму, што ансамбль быў запрошаны ў Менск для запісу на рэспубліканскім радыё".*

Знаходзячыся на заслужаным адпачынку, Віталь Аляксеевіч па-ранейшаму імкнуўся ўдзельнічаць у культурным і грамадскім жыцці раёна. У 1995 годзе ён стварае ансамбль народнай песні і музыкі "Бліскавіца" на базе раённага Дома культуры. Галоўная задача калектыву - народныя песні, самабытны беларускі фальклор, сучасная беларуская песня. Віталь Аляксеевіч піша музыку, робіць аранжыроўкі. Галоўнай візітоўкай музычнага калектыву становіцца яго песня "Шклаўчанка", створаная на словы мясцовага літаратара Лявона Анціпенкі. Калектыў хутка набывае папулярнасць. "Бліскавіца" - лаўрэат рэспубліканскага фестывалю камернай музыкі ў Мсціслаunion, міжнародных фестываляў: "Дняпроўскія галасы" ў Дуброўне, "Вянок дружбы" ў Бабруйску. Удзельнічае ў рэспубліканскіх святах "Дзень беларускай пісьменнасці, "Дажынкі", выступае ў многіх кутках Беларусі і ў замежжы. У 2002 годзе ансамблю прысвоена ганаровае званне "народны". Праз два гады створаны ім музычны калектыў Віталь Алякеевіч перадае маладзейшаму пакаленню музычных творцаў.

Аднак, ужо не малады чалавек, Віталь Аляксеевіч не можа без творчасці. Ён прадаўжаў працаваць музычным кіраўніком у Кучарынскім сельскім Доме культуры, Шклоўскім прафесійным ліцэі № 12, заўсёды адклікаўся на прапановы нечым дапамагчы ў культурна-музычных мерапрыемствах. З'яўляўся актыўным удзельнікам "Літаратурнага салона", які пэўны час працуе пры раённым гістарычна-краязнаўчым музеі.



За доўгі час, працуючы на ніве музычнай творчасці, Віталь Бабчанка паспрыяў таму, што вялікая колькасць жыхароў Шклоўшчыны, вучняў музычнай школы і ўдзельнікаў мастацкай самадзейнай абудзілася да музычных здольнасцей і ўвогуле дакранулася да "яе вялікасці" культуры. Пад кіраўніцтвам Віталія Бабчанкі падрыхтавана шмат будучых прафесійных музыкантаў. Сярод іх народны артыст Беларусі Васіль Раінчык - прафесар, кампазітар, кіраўнік вакальна-інстументальнага ансамбля "Верасы", маладзёжнага тэатра эстрады. Аднак 30 ліпеня 2010 года, пасля цяжкай хваробы, Віталь Бабчанка пакінуў гэты свет. Па ўспамінах яго жонкі Рымы Іванаўны, апошнім яго жаданнем было ўзяць у рукі баян.



Віталь Аляксеевіч Бабчанка ўзнагароджаны Ганаровай Граматай Вярхоўнага Савета БССР, Граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР, знакамі I і II ступені Усесаюзнага фестывалю самадзейнай творчасці. У 1990 годзе ён атрымаў званне Заслужанага дзеяча культуры Беларусі. Разам з Лявонам Анціпенкам ён з'яўляецца аўтарам гімна горада Шклова.

У гэты вечар сваімі ўспамінамі пра жыццё і творчасць таленавітага музыканта і педагога падзяліліся былыя калегі, сябры і проста жыхары Шклова, якія яго добра ведалі.

***Пётр Мігурскі,***
*намеснік Шклоўскай арганізацыі ТБМ.*

# Дзень Волі на Лідчыне

Традыцыйным чынам адзначылі Дзень Волі на Лідчыне. Грамадскія актывісты, сябры БНФ і ТБМ, наведалі памятныя месцы і месцы пахавання змагароў за беларускую волю розных часоў - ад паўстання 1863 года да падзей Другой сусветнай вайны.





Абавязковай часткай праграмы адзначэння Дня Волі было наведванне месца пахвання Міністра абароны Беларускай Народный Рэспублікі - генерала Кіпрыяна Кандратовіча. Расказвае старшыня Лідскай раённай арганізацыі Партыі БНФ і БНФ "Адраджэнне" Сяргей Пантус:

- Адбылося традыцыйнае мерапрыемства. Мы ўшанавалі памяць усіх вядомых змагароў Лідчыны, якія змагаліся за волю Беларусі. І наведалі магілы людзей, якія непасрэдна звязаныя з БНР, напрыклад, генерал Кіпрыян Кандратовіч. Гэта нашае традыцыйнае мерапрыемства, мы штогод яго ладзім, бо трэба памятаць сваю гісторыю, гэта патрыятычнае выхаванне і наказ будучым пакаленням.





Завяршылася адзначэнне Дня Волі наведваннем памятнага каменя "100 гадоў БНР", які быў усталяваны за кошт мясцовага мецэната два гады таму ля грэка-каталіцкай капліцы па вуліцы Кастуся Каліноўскага ў Лідзе.

***Беларускае Радыё Рацыя.***

# Паэту Віктару Шведу споўнілася 95 гадоў




23 сакавіка выдатнаму беларускаму паэту Віктару Шведу спаўнілася 95 гадоў.

Віктар Швед - паэт, перакладчык, журналіст, а цяпер і мемуарыст. Нарадзіўся 23 сакавіка 1925 года ў вёсцы Мора, на Гайнаўшчыне. Сузаснавальнік Беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежа" і сябар Саюза польскіх пісьменнікаў. У 2015 г. быў уганараваны ордэнам Францыска Скарыны. Віктар Швед дэбютаваў у 1957 г. вершам "Я беларус" у беларускім тыднёвіку "Ніва". Напісаў і апублікаваў некалькі дзясяткаў зборнікаў вершаў на беларускай і польскай мовах. Перакладае з беларускай, расейскай, украінскай моў на польскую, з польскай - на беларускую. Нядаўна праграмнай радай тыднёвіка "Ніва" была выдадзеная кніга ўспамінаў Віктара Шведа "З мора ў горад", а менскае выдавецтва "Кнігазбор" выдала кнігу Сяргея Чыгрына са Слоніма "Мора Віктара Шведа". Кніга прысвечана жыццю і творчасці старэйшага беларускага паэта з Беластока. У яе ўвайшлі артыкулы аўтара і гутаркі, напісаныя ім у розны час. Яны адлюстроўваюць жыццёвы і творчы шлях Віктара Шведа, які пачынаўся з вёскі Мора Гайнаўскага павета. Віктар Швед жыве ў Беластоку. Пастаянна друкуецца ў беларускім тыднёвіку "Ніва".

***Беларускае Радыё Рацыя.***

# Віктару Шніпу - 60



Беларускаму паэту Віктару Шніпу 26 сакавіка споўнілася 60 гадоў з дня нараджэння. Як ён казаў сам, яму ў жыцці пашанцавала, што з сямнаццаці гадоў знаходзіўся сярод творчых людзей. Напачатку па запрашэнні Яўгена Крупенькі хадзіў на літаб'яднанне "Крыніцы" пры "Чырвонай змене", у якой 17 жніўня 1977 года была надрукавана яго першая падборка вершаў. Алесь Емельянаў, які тады рыхтаваў літстаронку, даў творы Віктара з біяграфіяй і фотаздымкам. Потым ён сам у 1980 годзе пры валожынскай раёнцы "Працоўная слава" стварыў літаб'яднанне "Рунь", якое па сёння працуе. Цяпер яно пры Доме культуры і мае званне народнага літаб'яднання. Кіруе ім паэтка Валянціна Гіруць-Русакевіч. Далей была вучоба ў Літінстытуце ў Маскве, дзе пазнаёміўся з будучай жонкай Людмілай Рублеўскай. Заняткі былі заняткамі, а размовы пасля вучобы давалі яшчэ болей, чым літінстытут. Пасля вучобы працаваў у часопісе "Беларусь", газетах "Наша слова" і "Літаратура і мастацтва". І вось ужо шаснаццаць гадоў - у выдавецтве "Мастацкая літаратура".

Кожны дзень працуе з рукапісамі, з творчымі людзьмі. І сям'я ў яго творчая - жонка Людміла пісьменніца, дзеці мастакі. Вераніка і Максім школьнікамі пісалі вершы па-беларуску. Друкаваліся. Цяпер толькі чытаюць. І хоць Віктар Шніп у апошні час піша прозу, але сябе празаікам не лічыць. Ён быў і застаецца найперш добрым паэтам:

*Зайздрошчу зоркам, што даўно згарэлі,*
*А іх святло ў Сусвеце ўсё ідзе.*
*Далёка зоры... Продкі ўверх глядзелі,*
*Каб у дарозе не блудзіць нідзе.*

Віктар Шніп напісаў і выдаў дзесяткі зборнікаў вершаў, перакладаў, кніг дзённікавых запісаў. І працягвае працаваць далей. Таму жадаем яму творчых адкрыццяў, новых кніг і вядома ж - здароўя.

***Барыс Баль,***
*Беларускае Радыё Рацыя.*

# *Віншуем сяброў ТБМ, якія нарадзіліся ў красавіку*

Абакунчык Галіна
Абрамовіч Віталь Мар'янавіч
Адынец Сяргей
Аксак Валянціна Іванаўна
Аляксандраў Уладзімір Леан.
Аляхновіч Андрэй Пятровіч
Анацка Дзмітры Юр'евіч
Андрэенка Тацяна Пятроўна
Апяцёнак Мікалай Мікалаевіч
Арабей Віталь Генадзевіч
Арлоў Сяргей Аляксеевіч
Арэп'ева Вольга Генадзеўна
Асіеўская Крысціна Эрнест.
Астапенка Аляксандр
Астапеня Рыгор Яўгенавіч
Астраўцоў Сяргей Аляксанд.
Атрашэнка Сяргей Нікіфар.
Аўшукоў Леанід Аляксандр.
Ашурык Андрэй Міхайлавіч
Багдановіч Юры Уладзіміравіч
Базнікін Юры Іванавіч
Балушэўская Ірына
Бандарэнка Зінаіда Аляксанд.
Бараноўская Вольга Аляксан.
Бараноўскі Уладзімір Мікал.
Барскі Віктар Яўгенавіч
Барысевіч Даніла Андрэевіч
Басякова Аліна
Болтак Аляксандр
Брылеўская Наталля Міхайл.
Будай Людміла
Булатоўскі Арцём Ігаравіч
Бульянкова Яніна
Бухоўская Яніна
Быль Віталь Анатольевіч
Вайцэховіч Зінаіда Афанас.
Вайцэховіч Эдуард Антонавіч
Вайцяховіч Марыя
Вакар Людміла Уладзіміраўна
Валадзько Вадзім Пятровіч
Валынец Алена
Варган Віталь
Васільеў Павел Аляксеевіч
Васількоў Віталь Рыгоравіч
Ваўкавец Яўген
Вераб'ёў Віталь
Вінаградаў Дзмітры Мікал.
Вінаградаў Павел Юр'евіч
Войкель Павел Анатольевіч
Воўкава Вікторыя Анатол.
Вярбоўская Ірына Леанідаўна
Гагалінская Людміла
Гаеўская Аляксандра Рамуал.
Гапановіч Іван
Гарадовіч Ала Леанідаўна
Гардынец Лідзія Міхайлаўна
Гарэлікава Тамара Пятроўна
Гасюк Марына
Гладкая Анастасія Мікалаеўна
Гоеўская Алеся
Грыгаркевіч Вадзім Юр'евіч
Грынявецкая Надзея Канстан.
Грынявіцкі Юры Анатольевіч
Грыцкевіч Аляксандра Аляк.
Гуркова Аніта Гражына Аляк.
Гучак Вольга Уладзіміраўна
Дайлід Павел Канстанцінавіч
Дарафейчык Ганна
Дарога Мікалай Філіпавіч
Даўгашэй Галіна Аляксандр.
Дземідзенка Анастасія Алякс.
Дзенісевіч Ніна
Дзінгілеўскі Віталь Віктаравіч
Дзьячкоў Алег Уладзіміравіч
Дзябёлая Алена Віктараўна
Дзягілева Галіна
Дзям'яненка Алесь Мікалаевіч
Дзяргач Галіна Іванаўна
Доўкша Ірына
Драйлік Алена Уладзіміраўна
Дубіцкая Сцяпаніда
Дулько Вольга
Дундалевіч Людміла
Ельяшэвіч Ірына
Ермаловіч Канстанцін Уладзім.
Жукаў Вітаўт В.
Заблоцкі Максім Мікалаевіч
Завадская Алена Міхайлаўна
Занкевіч Вольга
Захарэвіч Алена Міхайлаўна
Зверава Тамара Мікалаеўна
Зврок Андрэй Сяргеевіч
Зеляннеўская Аксана Міхайл.
Зіноўева Святлана
Зуева Ларыса Алегаўна
Іванова Ніна
Іваноў Ігар Віктаравіч
Івашчанка Аляксандр Анатол.
Ільніцкі Кірыла
Ільючык Мікалай Антонавіч
Іотчанка Настасся Аляксееўна
Іўчына Тацяна Сяргееўна
Кабзар Анатоль Ігаравіч
Кадушкевіч Іван Антонавіч
Казакевіч Юры Аляксандр.
Казловіч Алена
Казмерчак Ігар Міхайлавіч
Каляда Надзея Сяргееўна
Каляда Наталля Васільеўна
Камлюк Алесь Антонавіч
Кананові Аляксандр Алякс.
Канапацкі Вадзім
Караленя Жанна Сямёнаўна
Карлінская Тамара Іванаўна
Карповіч Алесь Аляксандр.
Касая Ганна
Кастусёў Рыгор Андрэевіч
Касьянчык Святлана Васіл.
Кацэвіч Ірына Мікалаеўна
Качан Алена Станіславаўна
Кашалькова Марыя Якаўлеўна
Кашэль Кастусь
Кісялёва Святлана
Клішэвіч Ігар Уладзіміравіч
Кніт Уладзімір Міхайлавіч
Кракоўны Яўген Аляксандр.
Краснасельскі Дзяніс
Красоўская Наталля Леанід.
Крэцкі Віталь
Кузьміна Дар'я Міхайлаўна
Кузняцоў Канстанцін Канст.
Кулак Віктар Уладзіміравіч
Кулаковіч Уладзімір Уладзім.
Кульбака Аляксандр Пятровіч
Курачыцкі Андрэй
Курэпін Мікіта
Кусянкова Любоў Яўгенаўна
Кушчанка Карына Аляксанд.
Лавіцкі Мікалай Емяльянавіч
Лакуцін Сяргей Дзмітрыевіч
Лапуць Ірына Сяргееўна
Лапцік Тацяна Яўгенаўна
Латушка Раман Андрэевіч
Леановіч Аляксандра
Леванцэвіч Лена Васільеўна
Лепушэнка Максім Алегавіч
Леўчанка Ганна Паўлаўна
Лісай Генадзь Станіслававіч
Літвіноўская Алеся Генадз.
Лічко Уладзімір Яўгенавіч
Лука Алена Вячаславаўна
Лукашэвіч Юры Аляксандр.
Лысая Наталля
Львова Ганна Леанідаўна
Ляхоцкая Алена
Ляшчоў Віктар
Максімовіч Кацярына
Малец Надзея
Малічэўскі Павал Віктаравіч
Мамантава Любоў
Манкус Артур Эдуардавіч
Манкус Канстанцін Віктаравіч
Манько Агата Антонаўна
Манько Алеся
Маразюк Анатоль Васільевіч
Марозава Наталля Анатол.
Марчук Дзмітры Іванавіч
Маслюкоў Тэльман Віктаравіч
Матвеева Ганна
Мацвеева Тацяна Віктараўна
Мацельскі Міхась Альфрэд.
Мельнікава Ала
Міцкевіч Вольга Уладзімір.
Міцынская Валянціна Алякс.
Мішур Юльяна Дзмітрыеўна
Нагорная Аліна Аляксандр.
Несцяровіч Антаніна Андр.
Несцярук Аркадзь Вітальевіч
Падэнка Наталля Анатольеўна
Пазнухова Васіліса Міхайл.
Паклонская Людміла
Панкоў С.А.
Паплаўны Анатоль Уладзімір.
Папоў Ігар Селівёрставіч
Пархімчык Віктар Віктаравіч
Парэчына Зінаіда Паўлаўна
Пастухоў Міхал Іванавіч
Пашук Тацяна Дзмітрыеўна
Петрашэвіч Арцём
Плахатнюк Святлана Паўлаўна
Пракаповіч Георг Дзмітр.
Пушкіна Яніна Аляксандраўна
Пшанічны Юры Рыгоравіч
Пяткевіч Дзяніс
Пятроўская Лізавета
Рабецкая Тацяна Юр'еўна
Райчонак Ада Эльеўна
Раманчук Раіса Міхайлаўна
Рудакоў Алег Васільевіч
Русецкі Сяргей Васільевіч
Савельева Таццяна Анатол.
Савіч Валер Уладзіміравіч
Сакалоў Юры Аляксандравіч
Сакалоўская Вераніка Пятр.
Сакалуха Алесь Іванавіч
Саладкевіч Ганна Міхайлаўна
Сацута Іван Уладзіміравіч
Северцаў Мікалай Аляксанд.
Селуянава Ала
Сівук Кацярына
Сідараў Сяргей
Сільнова Людміла Данілаўна
Сіўковіч Валянціна Мікал.
Скакоўская Марыя Вітальеўна
Скідан Аляксандр Пятровіч
Снапкоўскі Сяргей Уладзімір.
Соркіна Іна Валер'еўна
Станіславенка Ганна Рыгор.
Статкевіч Андрэй Ігаравіч
Сташулёнак Іван Іванавіч
Стрыжак Андрэй Сяргеевіч
Стрэцкене Валянціна Канст.
Сугак Вадзім Канстанцінавіч
Сулецкая Ніна Андрэеўна
Сцяпук Валянціна Андрэеўна
Сыцько Кірыл Валер'евіч
Сяцко Тацяна Сяргееўна
Таболіч Алена Уладзіміраўна
Талпека Дзмітры Міхайлавіч
Тарарака Алена
Труноў Віктар Іванавіч
Тушынскі Дзяніс Міхайлавіч
Усціновіч Юры
Федуковіч Вольга Мікалаеўна
Фейгіна Сафія Георгіеўна
Філіпчанка Дзяніс Уладзімір.
Фінагенаў Антон Аляксандр.
Фурс Антон Віктаравіч
Фэйгіна Сафія Георгіеўна
Фясенка Іван Іванавіч
Хаданёнак Марыя Іванаўна
Хадаровіч Ганна Уладзімір.
Хальманцэвіч Сяргей Анатол.
Хільмановіч Уладзімір Іван.
Хлапянюк Наталля Андрэеўна
Царук Юлія
Целеш Лявон Сцяпанавіч
Цехановіч Зміцер
Цімохіна Марыя Максімаўна
Ціханаў Максім Віктаравіч
Цярохін Уладзімір Станіслав.
Цярэшка Васіль Яўгенавіч
Чабатарэўская Тамара Мацв.
Чаеўская Ала Канстанцінаўна
Чарняўская Святлана Сярг.
Чарняўскі Міхаіл Давыдавіч
Чарткоў Алег Алегавіч
Чырвонцава Вікторыя Мікіт.
Чырэц Дзмітрый Аркадзьевіч
Чэбатарэўская Тамара Мацв.
Шапялевіч Валянціна Рыгор.
Шаўра Юры Міхайлавіч
Шаўцоў Раман Ігаравіч
Шашкель Ніка Пятроўна
Шкобрава Вольга Піліпаўна
Шук Надзея
Шумчык Франц Станіслававіч
Шут Павел Васільевіч
Шчукін Міхаіл Уладзіміравіч
Шчыракова Ларыса
Шэвяка Аляксандр Пятровіч
Юржыц Святлана Леанідаўна
Юржыц Уладзімір Генадзьевіч
Яблонскі Зміцер Міхайлавіч
Якіменка Юлія Андрэеўна
Яловік Павел Ірэніюшавіч
Ярмоленка Васіль Сцяпанавіч
Яфімовіч Юлія Паўлаўна
Яцэнка Вольга





# У Магілёў завіталі рыцары

По запрашэнні ТБМ імя Ф. Скарыны г. Магілёва да нас 27 лютага 2020 г завіталі рыцары з Менска. Два рыцары-шляхцюкі Юры Усціновіч і Алесь Пятроўскі наведалі дзве школы нашага горада, у якіх ёсць класы з беларускай мовай выкладання. Гэта СШ № 1 і СШ № 34.









Госці расказалі пра эпоху рыцарства на Беларусі, пра традыцыі і ўзбраенне. Было паказана некалькі фізічных практыкаванняў для загартоўкі сапраўднага ваяра, і ахвочыя шкаляры здолелі прыняўь удзел у інтэрактыўным мерапрыемстве. І абавязкова быў паказаны рыцарскі двубой! Напрыканцы сустрэчы вучні і настаўнікі з задавальненнем памералі і фатаграфаваліся ў рыцарскіх даспехах. Чакаем паноў Юрася і Алеся зноў да нас у госці!

***Алег Дзьячкоў,***
*Магілёў.*

*Навіны Германіі*

# "Сітуацыя сур’ёзная, яе фінал адкрыты"

## *Гучная прамова Ангелы Меркель пра змаганне з каранавірусам*

*Канцлер Германіі Ангела Меркель звярнулася да немцаў у сувязі з пандэміяй каранавіруса ў свеце. Прамова нямецкай лідаркі здабыла вялікую папулярнасць ва ўсім свеце. Яе цытуюць вядучыя інфармацыйныя агенцтвы і карыстальнікі сацыяльных сетак.*

*“Радыё Свабода” апублікавала прамову цалкам.*

“Каранавірус вельмі сур'ёзна змяняе жыццё ў нашай краіне. Нашае ўяўленне аб штодзённасці, аб грамадскім жыцці, аб сацыяльным узаемадзеянні - усё гэта падвяргаецца выпрабаванню, як ніколі раней. Мільёны з вас не могуць хадзіць на працу, вашыя дзеці не ходзяць у школы і дзіцячыя сады, тэатры, кіно і крамы зачыненыя, і, што, напэўна, цяжэй за ўсё - усім нам не хапае асабістых сустрэчаў, якія мы ўспрымалі ў іншых абставінах як дадзенасць.

Вядома, у такой сітуацыі кожны з нас заклапочаны, мы задаёмся пытаннем, што будзе далей. Сёння я такім незвычайным чынам звяртаюся да вас, таму што хачу распавесці, чым я як канцлер, а таксама мае калегі ва ўрадзе кіруемся ў гэтай сітуацыі. Гэта і ёсць адкрытая дэмакратыя: мы прымаем палітычныя рашэнні празрыста і тлумачым іх. Мы стараемся тлумачыць нашыя дзеянні максімальна старанна і інфармаваць пра іх, каб унесці яснасць. Я цвёрда веру, што мы справімся з гэтай задачай, калі сапраўды ўсе грамадзяне зразумеюць яе як сваю задачу.

Таму дазволю сабе выказацца так: усё сур’ёзна. І вы таксама пастаўцеся да гэтага сур’ёзна.

З часоў уз’яднання Германіі, не, з часоў Другой усясветнай вайны не было большага выкліку нашай краіне, пры якім так шмат залежала б ад нашых сумесных салідарных дзеянняў.

Я хачу растлумачыць вам, на якім этапе развіцця зараз знаходзіцца эпідэмія ў краіне, распавесці, што робяць федэральны ўрад і дзяржаўныя структуры, каб абараніць усіх у нашым грамадстве і паменшыць эканамічную, сацыяльную і культурную шкоду. Але яшчэ я хацела б данесці, чаму для гэтага нам патрэбныя вы і што можа зрабіць кожны з вас.

**Аб эпідэміі** - усё, што я скажу вам, заснавана на сталых кансультацыях федэральнага ўраду з экспертамі інстытута Роберта Коха і іншымі навукоўцамі і вірусолягамі: ва ўсім свеце вядуцца інтэнсіўныя даследаванні, але да гэтага часу няма ні тэрапіі супраць каранавірусу, ні вакцыны.

Пакуль гэта так, можна зрабіць толькі адно, і гэта галоўнае ва ўсіх нашых дзеяннях: запаволіць распаўсюджванне вірусу, расцягнуць яго на месяцы і такім чынам выйграць час. Час для таго, каб навукоўцы маглі распрацаваць лекі і вакцыну. Але перш за ўсё час для таго, каб мы маглі паклапаціцца найлепшым чынам аб тых, хто захварэў.

У Германіі выдатная сістэма аховы здароўя, магчыма, адна з найлепшых у свеце. На яе можна спадзявацца. Але нават нашыя шпіталі будуць цалкам перагружаныя, калі ў самы кароткі час у іх будзе дастаўлена шмат пацыентаў, у якіх каранавірусная інфекцыя працякае цяжка.

Гэта не проста абстрактныя лічбы статыстыкі, гэта нечыя бацька ці дзед, маці ці бабуля, нечыя партнёры, гэта людзі. Мы - грамадства, у якім важнае кожнае жыццё, кожны чалавек.

Перш за ўсё ў гэтай сітуацыі я б хацела звярнуцца да лекараў, медсёстраў і медбратоў, да ўсіх работнікаў нашых шпіталёў і сістэмы аховы здароўя ў цэлым. У гэтай барацьбе вы змагаецеся за нас на перадавой. Вы першымі сустракаецеся з хворымі, бачыце, як цяжка працякаюць некаторыя выпадкі інфекцыі. І кожны дзень вы зноў бярэцеся за працу і дапамагаеце людзям. Вы робіце вялікую справу, і я дзякую вам за гэта ад усяго сэрца.

Такім чынам: задача палягае ў тым, каб запаволіць прасоўванне вірусу на яго шляху праз Германію. Выконваючы гэтую задачу, мы павінны - і гэта жыццёва важна - засяродзіцца на наступным: па магчымасці абмежаваць грамадскае жыццё. Вядома, у разумных межах, таму што дзяржава павінна функцыянаваць і далей, натуральна, мы захаваем забеспячэнне насельніцтва і захаваем эканамічную дзейнасць па меры магчымасцяў.

Але ўсё, што можа пагражаць людзям, усё, што можа пашкодзіць чалавеку або грамадству, мы павінны зараз абмежаваць.

Мы павінны паменшыць рызыку заражэння аднаго чалавека іншым, як толькі можам.



Я ведаю, наколькі сур’ёзнымі аказаліся гэтыя абмежаванні ўжо зараз: ніякіх мерапрыемстваў, ніякіх кірмашоў, ніякіх канцэртаў, перш за ўсё, ніякіх заняткаў у школах і ўніверсітэтах, ніякіх гульняў у дзіцячым садку і на дзіцячых пляцоўках. Я ведаю, як жорстка ўрываюцца ў наша жыццё і ў нашую дэмакратычную самасвядомасць абмежаванні, пра якія дамовіліся федэральны і зямельныя ўрады. Падобных абмежаванняў ніколі яшчэ не было ў рэспубліцы.

Дазвольце вас запэўніць: чалавек накшталт мяне, якому свабода перамяшчэння дасталася ў цяжкай барацьбе, можа знайсці апраўданне падобным абмежаванням толькі пры крайняй неабходнасці. У дэмакратычнай краіне яны могуць быць уведзеныя толькі на вельмі сур’ёзнай падставе і толькі часова - але зараз яны неабходныя, каб захаваць жыцці.

Таму ад пачатку тыдня ўведзены больш жорсткі памежны кантроль і абмежаванне на ўезд з некаторых найважнейшых суседніх з намі краінаў. Эканоміцы, буйным і дробным прадпрыемствам, крамам, рэстаранам, самазанятым ужо цяпер вельмі цяжка. Наступныя тыдні будуць яшчэ цяжэй. Запэўніваю вас: федэральны ўрад робіць усё, што можа, каб змякчыць эканамічныя наступствы, і, перш за ўсё, захаваць працоўныя месцы.

Мы можам зрабіць усё неабходнае, каб дапамагчы нашым прадпрымальнікам і працадаўцам вытрымаць гэта цяжкае выпрабаванне, і мы зробім гэта.

Кожны можа быць упэўнены - забеспячэнне прадуктамі будзе гарантаванае заўсёды. І калі ў нейкі момант паліцы апусцелі, значыць, яны будуць запоўнены ізноў. Кожнаму, хто зараз ідзе ў супермаркет, я б хацела сказаць: рабіць запасы мае сэнс, так было заўсёды. Але ў меру. Ліхаманкавая скупка прадуктаў, як быццам іх больш не будзе, бессэнсоўная і, у рэшце рэшт, кажа пра адсутнасць салідарнасці з іншымі людзьмі.

І дазвольце мне сёння выказаць падзяку тым людзям, якім занадта рэдка дзякуюць. Тыя людзі, якія ў гэтыя дні сядзяць за касай супермаркета ці напаўняюць паліцы, робяць адну з найцяжэйшых працаў на сённяшні дзень. Дзякуй, што застаяцеся на пасадзе дзеля суграмадзян, працаздольнасць крамаў літаральна трымаецца на вас.

Зараз аб самым неабходным: усе дзяржаўныя меры будуць бессэнсоўныя, калі мы не будзем выкарыстоўваць найбольш дзейсны сродак супраць занадта хуткага распаўсюджвання віруса: нас саміх. Вірус закрануў кожнага з нас без разбору, і зараз сапраўды гэтак жа без разбору мы павінны дапамагаць адзін аднаму. Перш за ўсё тым, што прымем праблему ўсур’ёз. Не ўпадаць у паніку, але таксама ні на хвіліну не дапускаць думкі, што ад вас нічога не залежыць. Кожны на рахунку. Патрэбныя нашыя агульныя намаганні.

Эпідэмія паказала нам, наколькі мы ўсе ўразлівыя і як залежныя ад абачлівых паводзін іншых. Але акрамя гэтага - як сумеснымі дзеяннямі мы можам абараніць і падтрымаць адзін аднаго.

Гэта залежыць ад кожнага. Мы не асуджаныя і не павінныя адхілена назіраць, як распаўсюджваецца вірус. У нас ёсць супраць яго сродкі: мы павінны берагчы адзін аднаго і захоўваць дыстанцыю. Парады вірусолагаў адназначныя: больш ніякіх поціскаў рукі, грунтоўна і часта мыць рукі, захоўваць дыстанцыю ад іншых людзей, па меншай меры, паўтара метра, і лепш за ўсё спыніць кантакты з людзьмі вельмі сталага веку, таму што менавіта яны знаходзяцца ў найбольшай небяспецы.

Я ведаю, як цяжка выконваць гэтыя патрабаванні. Як раз у цяжкія часы мы хочам быць бліжэй адзін да аднаго. Клопат для нас заўсёды выяўлялася ў шчыльным кантакце і дотыку. Але, на жаль, цяпер правільней прытрымлівацца адваротнага. І мы ўсе павінны зразумець: цяпер менавіта дыстанцыя - праява клопату.

Зайсці да некага з добрымі намерамі, неабавязковае падарожжа - усё гэта можа азначаць заражэнне, і ад гэтага цяпер трэба адмовіцца. Эксперты абгрунтавана кажуць: унукі не павінны зараз сустракацца з бабулямі і дзядулямі.

Тыя, хто пазбягае непатрэбных сустрэч, дапамагаюць усім, хто цяпер у шпіталях клапоціцца пра пацыентаў, колькасць якіх толькі расце. Так мы ратуем жыцці. Гэта для многіх будзе цяжка, і таму зараз мы нікога не павінны пакідаць у самоце, мы павінныя паклапаціцца пра тых, каму патрэбныя спачуванне і падтрымка. Мы - сем’і і грамадства - знойдзем іншы спосаб падтрымаць адзін аднаго.

Ужо цяпер паўстала мноства крэатыўных спосабаў супрацьстаяць вірусу і яго сацыяльным наступствам. Ужо цяпер унукі запісваюць падкасты для бабуляў і дзядуляў, каб тыя не адчувалі сябе самотнымі.

Мы ўсе павінны знайсці спосаб паказаць дружалюбны жэст і разуменне: скайп, тэлефонныя размовы, эмэйлы а, можа, наогул зноў пачаць пісаць лісты. Бо пошта працуе. Мы чуем пра выдатныя прыклады дапамогі суседзям сталага веку, якія не могуць самі хадзіць на закупы. Я ўпэўненая, узнікне яшчэ шмат новага, і мы, як грамадства, пакажам, што мы нікога не пакідаем у бядзе.

Я звяртаюся да вас: прытрымлівайцеся правілаў, вызначаных на бліжэйшы час. Мы, як урад, увесь час будзем правяраць, што можна выправіць, што яшчэ неабходна зрабіць. Сітуацыя развіваецца, і, застаючыся ў ёй, мы павінны вучыцца, каб у любы момант змяніць рашэнне і рэагаваць іншымі спосабамі. І ўсе нашыя дзеянні мы будзем тлумачыць.

Таму я прашу вас: не верце чуткам. Верце толькі афіцыйным паведамленням, якія мы будзем перакладаць таксама на многія іншыя мовы.

Мы - дэмакратыя. Мы жывем не прымусам, а агульнымі ведамі і салідарнасцю. Гэта гістарычная задача, і з ёй можна справіцца толькі сумесна.

Я абсалютна ўпэўненая, што мы перадолеем гэты крызіс, але наколькі вялікія будуць ахвяры? Колькі любімых людзей мы страцім? Гэта шмат у чым залежыць ад нас. Мы можам дзейнічаць рашуча і салідарна. Мы можам прыняць абмежаванні і падтрымліваць адзін аднаго.

Сытуацыя сур’ёзная, яе фінал адкрыты.

Гэта значыць, ён будзе залежаць, у прыватнасці, ад таго, як дысцыплінавана кожны з нас выконвае правілы.

Нават калі мы яшчэ ніколі не перажывалі нічога падобнага, мы павінныя паказаць, наколькі шчыра і разумна мы можам сябе паводзіць і гэтым ратаваць жыцці. Гэта залежыць ад кожнага з нас без выключэння і, такім чынам, ад нас усіх".

***Радыё Свабода.***

(Працяг. Пачатак у папяр. нумарах.)

Віктар Шніп

# БЕЛАРУСКІ ПАНТЭОН

## Балады крыві і любові

### БАЛАДА ВАСІЛЯ КАВАЛЯ
### (17.08.1907 - 29.10.1937)




У сутарэннях ноч і лязганне жалеза,
Лядовы рып дзвярэй, і крыкі, і стральба.
І бачыш крыж, і чуеш гукі паланэза,
І дыхаць не дае, нібы пятля, журба.

І ты ляжыш, нібы ў труне, у сутарэнні,
Не разумееш: ці жывы, ці ўсё ж памёр?
І дымам пахне родны шэры свет асенні -
На вуліцы ўжо цэлы дзень гарыць касцёр,

Дзе попелам становяцца раманы, вершы,
Якіх яшчэ ніхто ніколі не чытаў.
І краты, нібы павуціну, не парвеш ты,
Хоць сотню раз
парваць ты краты спрабаваў.

У цемры чуеш крокі. Па цябе ідуць.
І гэта смерць твая. Ты не баішся смерці.
І сыдзе ноч, ды зоры ў небе не памруць.
І кроў тваю з сябе забойцам век не сцерці.

*29.10.2017 г.*

### БАЛАДА ЗАІРА АЗГУРА
### (15.01.1908 - 18.02.1995)




Камень халодны, нібы вечны лёд,
Але ў тваіх руках ён ажывае,
Цяплеючы, святлеючы, як мёд
У кветках тых, куды пчала лятае.
І ад цябе жыццё ў камень ідзе,
Нібы ад сонца ў белы свет праменне.
І ўжо выходзяць постаці людзей
З тых камянёў, якія ўжо каменнем
Не будуць болей на зямлі, якая
І для цябе, як і для ўсіх, святая,
Бо гэта беларуская зямля,

Якая поіць чысцінёй крыніцаў
І любіць у нябёсах жураўля
Не менш чым у руках сваіх сініцу.
І ты сядзіш сярод скульптур, як Бог,
Які стаміўся ад стварэння свету,
Але які стварыць усё-ткі змог
Зямлю, людзей і пчол для кветак…

*25.10.2008 г.*

### БАЛАДА ЯЎГЕНІІ ПФЛЯЎМБАЎМ
### (1.11.1908 - 13.01.1996)




За мужам у Сібір… А для чаго? Ці трэба?
Пытанні, нібы снег, ля сэрца растаюць.
А над табою чорнае, як воран, неба,
І ўдзень, і ўночы сумна плачуць і пяюць
Ваўкі і людзі, і таму навошта вершы
Пра родны край, якога ў нас амаль няма,
Але ўсё ж да яго праз вершы ўсё ідзеш ты
І прыйдзеш, бо задушыцца крывёй зіма…

…І будзеш з мужам ты, нібыта за сцяною
Схаваная, хаваючы ў сваёй душы
Жаданне грэшнае: не толькі быць жаною,
А быць паэткаю, распятай на крыжы
Паэзіі, якая вечнасць не шукае,
Ды застаецца вечнаю, як гэты свет,
Дзе, нават паміраючы, не памірае,--
Пакутуе ў сваёй паэзіі паэт…

…І пішаш верш,
хаваючы, як грэх, ад мужа,
Пра родны край,
які ў нас ёсць, дзе ты жывеш,
І белая папера прад табой, як сцюжа,
І пралятае праз яе, як куля, верш…

*28.06.2008 г.*

### БАЛАДА ЮРКІ ЛЯВОННАГА
### (29.07.1908 - 29.10.1937)

Уладарыла ноч у двары.
Ты пісаў, і чыталі сябры,
І суседзі чыталі, і мама:
"Кожны з нас на зямлі толькі госць:
Гэта - вечная радасць і драма…
Як па медных дратох тэлеграма -
Прамільгне і мая маладосць…"

Прамільгнула твая маладосць,
І жыццё прамільгнула таксама.
Толькі ты на зямлі не як госць
Быў і жыў, і застаўся, і драма
Засталася твая, як і вершы




Засталіся на роднай зямлі,
За якую не ў бітве памрэш ты,
А застрэляць цябе халуі.

Ты ідзеш па сцяжыне, якая
Упіраецца ў ноч і ў сцяну.
І ўжо той, хто ў цябе тут страляе,
Сабе гэтым майструе труну,
Бо на свеце жыве ён як госць.
І ў яго ёсць таксама матуля.
Як у сэрца тваё ляціць куля,
Прамільгне і яго маладосць…

*29.10.2017 г.*

### БАЛАДА МІХАСЯ БАГУНА
### (9.11.1908 - 17.02.1938)

…Ты прыпомніў дарогі Айчыны
І не ўспомніў дарогі другой,
Ля якой бы бярозы й рабіны
Так цвілі невыказнай журбой.
Можа зналі яны, што дадому
Ты ніколі не вернешся ўжо
І не скажаш "кахаю" нікому
І "абрыдла" для жніўных дажджоў
Ты не скажаш, бо тут у Сібіры
Беларускасць тваю і цябе



Сцерагуць, як агонь, канваіры
І смяюцца тут з тых, хто ў журбе
Па дарогах далёкай Айчыны,
Для якой ты сябе аддаваў,
Каб шумелі бярозы й рабіны
Весялей, каб не лезла трава
На забытыя людствам магілы,
І каб роднае слова жыло,
І бусловы бялюткія крылы
Нам прыносілі ўвесну цяпло…
У снягах патанае чужына,
Разрываецца сэрца ў грудзях,
І крывёю на снезе рабіна
Чырванее, знікае ў снягах.
Ды не знікне ніколі Айчына
Ні ў сібірскіх снягах, ні ў вяках…

*21.09.2008 г.*

### БАЛАДА СЯРГЕЯ ДАРОЖНАГА
### (25.02.1909 - 19.07.1943)

*Беларусь больш не стане крыжам*
*Пры дарозе з Хрыстом распятым.*
**С. Дарожны**

Палымнее касцёр у турэмным двары -
Гэта проза і вершы, і заўтрашні дзень
І тваёй, і маёй Беларусі гарыць.
І паўзе па зямлі дыму згубнага цень
За тваім цягніком на скрываўлены ўсход,
Дзе будуецца горад на белых касцях.
Над табою нябёсы чужыя, як лёд,
І навокал снягі і лясы - у снягах…



Ты не можаш паверыць,
што шлях твой - не сон,
Што табе толькі сёння прысніўся чамусь.
А задрэмлеш на міг: бачыш жыта і лён,
Курганы і азёры, і ўсю Беларусь,
Для якой ты пісаў, для якой ты і жыў,
Каб заўсёды яна, расквітнеўшы, жыла,
Каб на нашых магілах стаялі крыжы,
Не трава забыцця палымнела - расла…

Дагарае касцёр у турэмным двары,
Попел шэры, як снег, узнімаюць вятры,
І ляціць шэры попел не ў неба да зор,
Узляцеўшы, вяртаецца зноў у касцёр,
Каб ізноўку гарэць, і гарэць, і гарэць,
І бясконца праз нашае Заўтра ляцець…

*16.05.2009 г.*

(Працяг у наступным нумары.)

# ТЭАТР З БЕЛАРУСКІМ СЭРЦАМ

## Да 95-годдзя з дня нараджэння Валянціна Ермаловіча

Для беларускай культуры XXI ст. характэрны спад цікавасці да аматарскай тэатральнай творчасці - шмат у чым таму, што арганізацыя вольнага часу сучасным чалавекам іншая, чым у мінулым стагоддзі. У святле гэтых аб'ектыўных абставін асаблівае значэнне набывае досвед, прыклад і асоба Валянціна Іванавіча Ермаловіча (1925 - 2004) - выдатнага дзеяча народнага тэатра, прапагандыста беларускай мовы, рэжысёра, акцёра, педагога, шчырага сябра ТБМ, ветэрана Вялікай Айчыннай вайны.

У 1950 г. В. Ермаловіч скончыў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут (курс лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР, народнага артыста БССР К.Н. Саннікава). Служыў акцёрам Пінскага (1950 - 1954) і Магілёўскага (1954 - 1956) абласных драматычных тэатраў, дзе пераважна іграў характарныя ролі: Нелькін ("Вяселле Крэчынскага" А. Сухава-Кабыліна), Бойка ("Зямны рай" С. Васільева), Андрэй ( "У добры час!" В. Розава), Сева ("Іван Рыбакоў" В. Гусева) і інш. Асабліва значнай для сваёй творчай біяграфіі артыст справядліва лічыў ролю Пятра ў спектаклі "Апошнія" М. Горкага на пінскай сцэне.

З 1956 па 1985 гг. В. Ермаловіч выкладаў у Магілёўскім культурна-асветніцкім вучылішчы імя Н.К. Крупскай, адначасова паспяхова ажыццяўляючы мастацкае кіраўніцтва аматарскімі тэатральнымі калектывамі г. Магілёва і Магілёўскай вобласці. Выбар народнага тэатра як прасторы творчай самарэалізацыі быў для В. Ермаловіча зусім не выпадковым. Рэжысёр успамінаў: *"У часы майго дзяцінства людзі вельмі захапляліся мастацкай самадзейнасцю, спектаклі ставіліся ледзь не ў кожнай вёсцы. Бацькаў брат Іосіф, мой старэйшы брат Мікола, іншыя хлопцы і дзяўчаты збіраліся па вечарах у нашай хаце, развучвалі п'есы. Рэпеціравалі, ставілі спектаклі".* Неабходна адзначыць, што роднымі братамі Валянціна Іванавіча Ермаловіча былі гісторык, літаратуразнавец, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Мікола Іванавіч і настаўнік беларускай мовы і літаратуры, партызан-падпольшчык, кавалер ордэна Чырвонай Зоркі Лявон Іванавіч.

У Магілёўскім народным тэатры Палаца культуры завода штучнага валакна ў 1961 - 1969 гг. В. Ермаловіч паставіў спектаклі "Хто смяецца апошнім?" К. Крапівы, "На крутым павароце" К. Губарэвіча, "Гаўрошы Брэсцкай крэпасці" А. Махнача, "Мурынбор" І. Ісачэнкі, "Купалінка" ("Паўлінка" і "Прымакі") Я. Купалы і інш.

У 1971 - 1977 гг. рэжысёр кіраваў тэатральным калектывам медыцынскіх работнікаў Магілёўскай абласной псіхіятрычнай бальніцы. У Краснапольскім народным тэатры ў 1978 - 1992 гг. ён ажыццявіў пастаноўку спектакляў "І змоўклі птушкі…" І. Шамякіна, "У новым доме" І. Мележа, "Людзі



і д'яблы" К. Крапівы, "Паўлінка" Я. Купалы, "Таблетку пад язык" А. Макаёнка, "Вечар" А. Дударава, "Васа Жалязнова" М. Горкага, "Чалавек з мядзведжым тварам" І. Чыгрынава, "Стогны душы" паводле М. Гарэцкага, "На дарозе жыцця" Я. Коласа і інш. З 1993 па 1998 гг. В. Ермаловіч служыў рэжысёрам непаўторнага ў сваім родзе Бялыніцкага народнага тэатра юнага гледача, дзе інтэрпрэтаваў на сцэне наступныя творы: "Модны шляхцюк" К. Каганца, "Дагарэла свечачка..." А. Петрашкевіча, "Трыбунал" А. Макаёнка і інш.



Рэжысёр М. Макарцоў адзначаў: *"У кожнай п'есе, якую выбіраў для пастаноўкі Валянцін Іванавіч, ён быў суаўтарам драматурга: крэсліў і перарабляў тэкст, дапісваў пралогі і маналогі, уносіў свежую, жывую плынь у п'есу, ад чаго яна толькі выйгравала. Менавіта такі падыход да драматургіі з'яўляўся значнай часткай яго рэжысёрскага наватарства і непаўторнасці. Не палохаўся ён масавых спектакляў, гістарычных палотнаў, якія патрабавалі вялікіх пастановачна-рэжысёрскіх намаганняў. Наадварот, ён імі захапляўся і ўдала ўплятаў у іх фальклорныя матывы. [...] Амаль ва ўсіх спектаклях Валянцін Іванавіч прымаў удзел і як артыст. Панароднаму маляўнічымі, сакавітымі, жыццёвымі створаны ім вобразы Пустарэвіча ў купалаўскай "Паўлінцы", Васіля - у дударэўскім "Вечары", Цярэшкі - у макаёнкаўскім "Трыбунале"…".*



У 1992 г. В. Ермаловіч заснаваў у Магілёўскім гарадскім Цэнтры культуры і вольнага часу народны тэатр "Валянцін", якім кіраваў да апошняга дня свайго жыцця. З калектывам рэжысёр увасобіў сцэнічныя працы "Пан міністр" Ф. Аляхновіча, "Юбілей" А. Чэхава, "На чорных лядах" паводле В. Быкава, "Пінская шляхта" В. Дуніна-Марцінкевіча, "Дзяды" А. Міцкевіча, "Калізей" М. Матукоўскага, "Дачка волі" М. Карпечанкі, "Сімфонія гневу" В. Шашалевіча, "Камедыя" У. Рудава паводле К. Марашэўскага і Ф. Аляхновіча і інш. Пры тэатры "Валянцін" быў створаны монатэатр, дзе В. Ермаловіч як майстар мастацкага слова выконваў літаратурныя спектаклі "Жыціе Ефрасінні По\лацкай" С. Законнікава, "Полымя кахання" Л. Рублеўскай, "Чаго жыў?" паводле А. Дударава, "Новая зямля" Я. Коласа, "Лебядзіная песня" А. Чэхава і інш.

Валянцін Іванавіч Ермаловіч у сваёй рэжысёрскай творчасці аднавіў беларускі традыцыйны сінтэтычны тэатр, наноў адкрыў драматургію Беларускага нацыянальнага адраджэння XIX - XX стст. (К. Каганец, Ф. Аляхновіч, М. Гарэцкі, Л. Родзевіч, В. Шашалевіч і інш.), стаў першым пастаноўшчыкам твораў драматургаў-сучаснікаў (А. Петрашкевіч, Л. Рублеўская, І. Ісачэнка, М. Карпечанка і інш.), зрабіў унёсак у развіццё формы монаспектакля ў беларускім тэатры. За 58 гадоў плённай працы В. Ермаловіч паставіў і аформіў 215 драматычных спектакляў, быў уганараваны прэміяй Ленінскага камсамолу (1986) і званнем Заслужанага работніка культуры БССР (1988). Рэжысёр і педагог збіраўся, але не паспеў скончыць і выдаць кнігу "Запіскі рэжысёра народнага тэатра", у якую павінны былі ўвайсці раздзелы, прысвечаныя працы рэжысёра самадзейнага тэатра з акцёрам, працы з драматургам, рэжысуры літаратурна-мастацкай кампазіцыі. Надзвычай актуальны сёння такі навучальны дапаможнік для практыкаў аматарскага тэатра ў Беларусі.




17 сакавіка 2020 г. выдатнаму майстру споўнілася б 95 гадоў. Памяці рэжысёра і педагога прысвечана кніга ўспамінаў яго родных, сяброў і вучняў "Ачышчэнне душы" ("Кнігазбор", 2014). У г. Магілёве, на доме № 46 па вуліцы Першамайскай, дзе ў пасляваенныя гады жыў Валянцін Іванавіч з сям'ёй, была ўсталявана мемарыяльная дошка яго памяці (скульптар - сябар Саюза мастакоў Беларусі У. Конанаў). Урачыстае адкрыццё адбылося 4 верасня 2015 г. і было прысвечана 90-годдзю В. Ермаловіча. Сродкі на ўсталяванне мемарыялу былі сабраныя сіламі каля 500 чал. з Беларусі, Расіі, Украіны і Польшчы, сярод якіх прафесар Я. Мірановіч (г. Беласток), пісьменнік В. Казакоў (г. Масква), дацэнт С. Кагамлык і актрыса А. Дудзіч (г. Кіеў).

***Зміцер Ермаловіч-Дашчынскі,***
*тэатразнавец.*

Фота з асабістага архіва аўтара:

1 - Валянцін Ермаловіч - артыст Пінскага абласнога драматычнага тэатра.

2 - Сцэна са спектакля Бялыніцкага народнага тэатра юнага гледача "Трыбунал" А. Макаёнка. У цэнтры - В. Ермаловіч (Цярэшка Калабок).

3 - Сцэна са спектакля тэатра "Валянцін" "Сімфонія гневу" В. Шашалевіча. Першы справа - В. Ермаловіч (Сальк).

4 - Мемарыяльная дошка памяці В. Ермаловіча.





# "Магілёўскія мастакі" ад Святланы Строгінай

22 лютага 2020 г. для сябраў ТБМ імя Ф. Скарыны г. Магілёва ў музеі В. Бялыніцкага-Бірулі наш шаноўны сябар, загадчыца музея Святлана Строгіна прачытала цікавую лекцыю "Выяўленчае мастацтва Магілёўшчыны". Лекцыя была прысвечана мастакам, якія жылі на Магілёўшчыне, якімі захапляліся і ганарыліся. Пра творчасць магілёўскіх мастакоў А. Бархаткова, Н. Воранава, Э. Карповіча, яскравых магілёўцаў, якія пакінулі на зямлі Беларусі свой зорны след. Таксама пасля лекцыі адбылася сустрэча з мастаком Аляксандрам Суворавым і наведванне яго персанальнай выставы "Горад сонца".



Антон Стэфанавіч Бархаткоў нарадзіўся 1915 ў вёсцы Шчаглоўка, Касцюковіцкі раён - беларускі жывапісец, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі. Вучыўся ў Маскоўскім мастацкім інстытуце імя Сурыкава. Вучань і прадаўжальнік традыцый В. К. Бялыніцкага-Бірулі. Сыны Антона Стэфанавіча - Вітольд (у гонар В. К. Бялыніцкага-Бірулі) і Ігар - таксама сталі прафесійнымі мастакамі-рэалістамі, такім чынам стварыў сапраўдную мастацкую дынастыю.

А.С. Бархаткоў аўтар шырокавядомых карцін: "Партрэт В. К. Бялыніцкага-Бірулі", "Ганачак", "Першая песенька", "Поўдзень на сенакосе", "Вясна на Нёмане", "Красавіцкі дзень", "Вясна", "Сінія цені", "Апошні прамень", "Бэз", "Залатая восень", "Любімыя дубы Якуба Коласа. Мікалаеўшчына" і шмат іншых. Яго творы знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, музеі сучаснага выяўленчага мастацтва ў Менску, музеях Магілёва, Гародні, Гомеля, Бялынічаў, Касцюковічаў.

Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР Натан Майсеевіч Воранаў нарадзіўся ў 1916 годзе ў Магілёве. Вучыўся ў Віцебскім мастацкім тэхнікуме ў выкладчыкаў Івана Ахрэмчыка і Фёдара Фогта, потым у Інстытуце жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя Рэпіна ў Ленінградзе. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны - пасля падрыхтоўкі ў артылерыйскім вучылішчы ў Кастраме камандаваў артылерыйскай батарэяй, потым - звязам разведкі. Не раз быў паранены, на некаторы час страціў зрок. Узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі, ордэнам Айчыннай вайны II ступені, медалём "За перамогу над Герма-ніяй у Вялікай Айчыннай вайне 1941-1945 гг." і інш. Выкладаў маляванне і чарчэнне ў сярэдніх школах Магілёва, на кафедры ма-люнка і жывапісу БДТМІ. Дацэнт. Сябар секцыі жывапісу Саюза мастакоў БССР, выконваў абавязкі старшыні Саюза маста-коў БССР. Працаваў у розных жанрах стан-ковага жывапісу. Найбольш вядомыя творы прысвечаны падзеям Кастрычніцкай рэвалюцыі і барацьбе беларускага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Стварыў партрэты беларускіх кампазітараў Я. Цікоцкага, У. Кандрусевіча, групавы партрэт фехтавальшчыц ("Беларускія "мушкецёры""); лірычныя і індустрыяльныя пейзажы, нацюрморты.

Беларускія мастацтвазнаўцы лічаць, што Н. Воранаў быў верны ідэалам свайго часу і прытрымліваўся ў творчасці асноўных догмаў сацыялістычнага рэалізму… Аднак творчасць Натана Майсеевіча выходзіла за рамкі гэтага метаду. Захоўваючы ідэалагічную аснову афіцыйнага мастацтва, у жывапісна-пластычным вырашэнні сваіх карцін ён творча пераасэнсоўвае спадчыну імпрэсіянізму, а таксама постімпрэсіянізму. Такое спалучэнне розных мастацкіх традыцый і бясспрэчнага таленту каларыста робіць асаблівa прывабнай творчасць мастака і для сучаснага гледача. У творчасці Н. Воранава, бачна дзве лініі: "грамадска-палітычную" і прыватную, камерна-інтымную. Творы Н. Воранава захоўваюцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь, Нацыянальным цэнтры сучасных мастацтваў, у фондах Беларускага саюза мастакоў, у Музеі гісторыі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта фізічнай культуры, у прыватных калекцыях Беларусі і замежных краін.



Магілёўшчына багатая на таленты. Знаёмства з кожным таленавітым чалавекам - гэта радасць адкрыцця. Такім адкрыццём стала сустрэча з мастаком Аляксандрам Суворавым. Аляксандр Браніслававіч Сувораў нарадзіўся ў Магілёве ў 1957 годзе, скончыў сярэднюю школу № 3, Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут (зараз Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў). Накірункі яго дзейнасці - станкавы жывапіс, графіка, манументальнае мастацтва. З 1995 года Аляксандр Сувораў у складзе Беларускага саюза мастакоў. Яго творчы шлях пачынаецца з 1980 года. Зроблена многа, але ўлік сваіх прац і дасягненняў мастак не вядзе (былі персанальныя выставы, удзельнічаў у шматлікіх агульных праектах). Творы захоўваюцца ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва ў Менску, Ма-



гілёўскім абласным мастацкім музеі імя П. Масленнікава, Шклоўскім краязнаўчым музеі, а таксама ў прыватных калекцыях краін Еўропы і Амерыкі.

Энергетыка ў музеі станоўчая, яна спрыяла шчырай размове аб вечным - аб мастацтве. Першае, што звяртае на сябе ўвагу пры знаёмстве з карцінамі Аляксандра Сувoрава, - гэта падмурак, на якім грунтуюцца сюжэты. А падмуркам служыць міфалогія - славянская, грэчаская, і не толькі. На міфалогіі мацуецца яго метафізічнае бачанне свету і быцця, часу і прасторы. Мастак падкрэслівае медытатыўны бок жыцця, таму перавагу аддае спакойным, задуменным момантам.

Ва ўсіх творах Аляксандра Суворава прысутнічаюць сімвалічныя элементы з алегарычнымі канатацыямі. Найбольш частыя вобразы, якімі ён карыстаецца - марская ракавіна, музычныя інструменты, птушкі. Карціны Аляксандра Суворава ўводзяць гледачоў у стан унутранай засяроджанасці, сузірання. Глядач міжволі скіроўвае думкі ў гістарычнае і міфапаэтычнае мінулае, задумваецца над культурнымі каштоўнасцямі свайго народа, краіны.

Напрыканцы мерапрыемства пашчасціла пачуць музычныя творы на электронным аргане. Вялікі дзякуй спадарыні Святлане Строгінай за выдатную праграму!

***Шымянкова Наталля.***
***Магілёў.***

*Не ад Эзопа, а ад Язэпа*

## Выказванні

Ад млоснасці пачутага прызнання ў каханні да "ты мне абрыд" - кароткі шлях.

Як знойдзеш сябе, пастарайся не губляць ніколі.

У большасці тонуць тыя, хто ўмее плаваць.

Шчыры вянок на пахаванні: "Вечная памяць ад удзячнай удавы".

Гісторыя - навука, якая не звяртае ўвагі на падзеі сёння, каб заўтра патрапіць вялікія намаганні і сродкі на пошкі ісціны гэтага дня.

Стронга любіць чыстую ваду, а не цывілізацыю, але цывілізацыя паядае стронгу з апетытам.

Варыўся ў саку сваіх праблем, толькі не кіпеў.

Ён рыхтаваўся, каб пазнаць самую вялікую таямніцу ў свеце: уласную смерць.

Ён паіў людзей сваімі чыстымі з ліста выступамі, як мутная дзіцячая сляза. І яму верылі.

Ніхто з нас не будзе такім, як іншым хочацца, і іншыя не будуць такімі, як нам хочацца.

Ужо стары чалавек, але не разумее, што ў жыцці галоўнае: сэнс ці сэкс?

Разумны вучыцца, а дурань павучае.

Спадзявайся на лепшае, але памятай - горшае таксама не спіць.

Рана ці позна смерць нас усіх забярэ і не варта мроіць, што можна ашукаць яе.

Лепш паміраць дома пад музыку з тэлевізара, чым у лякарні без дагляду.

Маё "я" мяне і губіць.

Права правам - артыкул для кожнага знойдзецца.

* * *

- Пеця! - звяртаецца да вучня настаўніца. - Ты ведаеш, што людзі паходзяць ад малпаў?

-Усё можа быць, Ніна Іванаўна! - адказвае вучань. - Нельга паручыцца за ўсіх людзей. Адно я толькі ведаю, што паходжу ад суседа, бо мой пашпартны тата заўжды мне кажа: "Суседскае семя".

- Пятро! Чаму ты ў адзін дзень атрымаў пяць двоек?

- Дык толькі пяць урокаў было.

***Язэп Палубятка.***

*Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік*

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі*** № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
***Адрас рэдакцыі:***
231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** naszaslowa@tut.by

***Рэдакцыйная калегія:***
Алена Анісім, Юрась Бабіч, Юля Бажок, Марыя Баравік, Аляксей Карпенка, Эла Оліна, Ігар Пракаповіч, Аляксей Пяткевіч, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Людвіка Таўгень, Алег Трусаў, Дзяніс Тушынскі, Аляксей Шалахоўскі.

**http://nslowa.by/ http://naszaslowa.by/**
**http://pawet.net/ http://kamunikat.org/**
**http://tbm-mova.by/ http://belkiosk.by/**

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзеных інфармацый. Рэдакцыя рукапісы не вяртае.***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Выдавец: Установа інфармацыі "Выдавецкі дом ТБМ".
Газета падпісана да друку 30.03.2020 г. у 17.00. Замова № 710.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 1500 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 2,61 руб., 3 мес.- 7,83 руб.
***Кошт у розніцу:*** па дамоўленасці.